# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 41 (1639) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 11 КАСТРЫЧНІКА 1987 г. ЦАНА 12 зл.



Восень. Фота Уладзіслава Завадскага.




## ЦІХІЯ ПЕНСІЯНЕРЫ

Не толькі паэты знікалі народу на гора,
Знікалі званіцы, знікалі саборы.
Над плошчаю Волі белую вежу
Лашчыла сонца і ветрык свежы.
Дзе тая вежа, дзе той гадзіннік?
Даўнейшы касцёл, нібы той халадзільнік,
Схаваўся ад сораму, што безгаловы,
„Спартак" раскашуецца там адмыслова.
Чыталася, як спракаветная кніга,
У „Слове" апетая наша Няміга.
Час і вайна яе пашкадавалі,
А знішчылі тыя, што мы ўзгадавалі.
Дабраліся ўрэшце, далі-такі рады
Новай фармацыі Герастраты.
Сабе задавалі дурную работу,
Даводзілі потым да сёмага поту,
Каб тое, што людзі стваралі вякамі,
Знішчыць дазвання сваімі рукамі.
Сябе узвышалі, хваліла іх прэса,
А сверб руйнавання лічылі прагрэсам.
Іду праз Нямігу і плошчу дахаты
І часта пытаюся: „Хто ж вінаваты,
Што вуліцы зніклі, палацы, саборы,
Што столькі было і злачынстваў, і гора,
Што знік і Гарэцкі, што знік Галавач,
Не вернецца Вольны з няволі, хоць плач,
Што згінулі недзе Чарот з Галубком,
Што ленінскай школы камбрыг і нарком
Знікалі ў жалобныя ночы, як сажа?
Дык хто за ўсе гэтыя страты адкажа?
А тыя, што нішчылі, білі, судзілі,
Ходзяць яшчэ паміж нас, як хадзілі,
Лісліва ўсміхаюцца, хлусяць без меры
Ціхія-ціхія пенсіянеры.
Сірочы праклён на іх каменем ляжа.
Няўжо за пакуты ніхто не адкажа?

## РЭКВІЕМ РУКАПІСАМ

Казалі, — рукапісы не гараць,
А я аднойчы бачыў, як гарэлі
У печы Галубковы акварэлі,
Як вершы не хацелі паміраць,
Сагрэтыя яшчэ жывым дыханнем,
І ласкаю, і трапяткім каханнем,
А кажуць, — рукапісы не гараць.

І як яшчэ гараць! І колькі іх згарэла
У печах мураванага двара,
Што зеўралі, як д'яблава нара,
Душа паэм за дымам адлятала,
Што так дайсці да кожнага хацела
Пасланцам весялосці і дабра,
Ды знікла ў полымі таемнага кастра.

Яна не стане кнігаю ніколі,
Не дакранецца да другой душы,
Халодны попел як ні варушы,
Што датляваў па апантанай волі.
З вятрамі знік ён у здзічэлым полі,
Якое ні засеяць, ні ўзараць...

А кажуць, — рукапісы не гараць.

Сяргей Грахоўскі

## ПАРАДОКС РОЗУМУ І УЧЫНКАЎ

У былым даўнім кляштары камедулаў, што высіцца сваімі вежамі над вядомым возерам Вігры, чацвертага верасня падвечар адбывалася нечуваная тут дагэтуль публічная дыскусія пра беларускую культуру і гісторыю. Пасля выступлення Сакрата Яновіча, бралі голас гісторыкі і дзеячы культуры (напрыклад, праф. Ю. Бардах). Так пачаліся першыя дні Адзінаццатых сувалкаўскіх сустрэч „Культура і асяроддзе", штогодняе мерапрыемства, якое арганізоўваецца Міністэрствам культуры і мастацтва, сувалкаўскім ваяводам, варшаўскай Акадэміяй прыгожых мастацтваў. Пачынальнікам і добрым іх духам лічыцца Андрэй Струміла, не толькі вядомы мастак, але і грамадскі дзеяч, які пакінуў гарадскую кар'еру, паставіў дом і мастацкую майстэрню на беразе Чорнай Ганчы, асеў жыць назаўсёды ў гэтым старонні. Струмілу ведаем мы як таго, хто супрацоўнічаў з Янам Гушчам у выданні польскіх перакладаў беларускай паэзіі. Цяпер жа з'явілася нагода пагаварыць з ім у асабістым тоне. — Każdy dobry Polak jest Białorusinem, — пажартоўвае Струміла і раптам пераключаецца на чысцюткую беларушчыну, усё роўна як бы ўсяго ўчора вярнуўся ён з роднай яму Мінішчы-

(Працяг на стар. 3)




Паведамляем, што падпіску на наш тыднёвік з высылкай яго заграніцу прымае RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie Nr 1153-201045-139-11”. На адвароце (банкаўскага) бланка з аплатай падпіскі неабходна падаць дакладны адрас тае асобы, каму Вы выпісваеце „Ніву“.

Цана падпіскі нашага тыднёвіка заграніцу з высылкай яго звычайнай поштай:

| | |
|---|---|
| **на квартал** | **— 234 зл.** |
| **на паўгода** | **— 468 зл.** |
| **на год** | **— 936 зл.** |

Кошт высылкі авіяпоштай залежыць ад краіны, у якую хочам выпісаць „Ніву“. Дакладныя інфармацыі ў гэтай і іншых справах падпіскі і высылкі газет і часопісаў заграніцу падае раней спомненая Centrala Kolportażu пісьмова або па варшаўскім тэлефоне, нумар цэнтралі 20-12-71, унутраныя: 577, 508 і 507.

На падпіску „Нівы“ заграніцу на 1988 год можна ўплаціць **на кожнай пошце да 10 лістапада** бягучага года.

**Выпісаная на ўвесь год „Ніва“ — найлепшы гасцінец Вашаму сваяку ці знаёмаму за граніцай!**

# З ПАЕЗДКІ Ў БССР

## ХЛЕБ НАШ НАДЗЁННЫ...

Калі я першы раз наведаў калгас „Савецкая Беларусь“ у 1978 годзе, гэты будынак, у якім зараз памяшчаецца славуты музей аб хлебе, знаходзіўся яшчэ ў пачатковай стадыі пабудовы. Уладзімір Лявонцьевіч, памятаю, гаварыў тады, што гэты будынак прызначаецца для адміністрацыі калгаса. Час падказаў яму іншае вырашэнне справы. Старшыня калгаса „Савецкая Беларусь“ — ужо тады дэпутат Вярхоўнага Савета БССР і Герой Сацыялістычнай Працы — прачытаў у „Камсамольскай праўдзе“ артыкул маладога вучонага, кандыдата тэхнічных навук, **Віктара Дзямянавіча Кармазіна** аб патрэбе заснавання ў краіне музея, прысвечанага гісторыі хлеба і яго значэнню ў жыцці чалавека і станаўленні цывілізацыі на зямлі. Аўтар артыкула не скрываў таксама сваіх клопатаў і бюракратычных перашкод. Ідэя запаланіла Уладзіміра Лявонцьевіча.

— Што ж, скажу вам шчыра, — звярнуўся да мяне старшыня калгаса. — Па праву і па гісторыі гэтакі музей належыцца нашай Украіне. Яна ў нас найбольш хлебаносная. Калі, аднак, у Кіеве не надта ж ахвотна ўспрынялі ідэю Віктара Кармазіна, дык я рашыў рэалізаваць яе на Беларусі, у самым заходнім яе раёне, дзе яшчэ маё пакаленне не заўжды круглы год мела адкрыты доступ да хлеба.

— З маленства застаўся ў маёй памяці матчыны запавет, — адазваўся я, — што хлеб — гэта святая рэч. Калі яго крышынка спадзе на падлогу, дык абавязкова трэба яе падняць, ачысціць, пацалаваць, папрасіць прабачэння і з'есці.

— Уявіце сабе, — уключыўся Віктар Кармазін, — што гэта звычай міжнароднага абсягу. Яго ведаюць і часта дагэтуль культывуюць на цэлым свеце, у розных культурах.

Пайшоў ужо дзесяты год, як гэты кандыдат тэхнічных навук разам з жонкай, Ларысай Васільеўнай, пакінулі шумлівы Кіеў і пасяліліся ў ціхенькай Расне. Віктар Кармазін стаў навуковым загадчыкам калгаснага музея **„Цэнтр-Хлеб“**, знаходзіцца ён у штаце ўпраўлення калгасам.

— Дык скажыце, калі ласка, — звярнуўся я да яго, — што сабою менавіта прадстаўляе ваш „Цэнтр-Хлеб“?

— Гэта музей па гісторыі хлеба і бульбы, якая для Беларусі з'яўляецца другім, не менш важным хлебам. Гэта таксама музей нашага калгаса, а заадно і народнага быту тутэйшага насельніцтва, ягонага эканамічна-культурнага адраджэння. Гэта выяўленне ролі хлеба ў цяжкі час вайны, што спалучаецца з выратаваннем маладога пакалення ад галоднай смерці. У першую чаргу адносіцца гэта да дзяцей у акружаным гітлераўцамі Ленінградзе. Гэта яшчэ захаванне дакументальнага, перш за ўсё рукапіснага, фонду аб хлебе. Ці вы мне паверыце, калі скажу, што за гэты, параўнальна яшчэ кароткі час існавання нашага музея накапілася ў нашым архіве ўжо столькі дакументаў, што разам яны важаць больш трох тон?! Адлюстроўваюць гэтыя дакументы ролю і значэнне хлеба ад часу старажытнага Егіпта і першых рускіх князёў па дзень сённяшні — уключна з ленінскім дэкрэтам аб зямлі і пасляваеннымі картачкамі на хлеб...



**Вось гэтакі музей „Цэнтр-Хлеб“ пабудаваў сабе калгас „Савецкая Беларусь“, што знаходзіцца ў Новай Расне, непадалёк ад дзяржаўнай мяжы з ПНР.**

Музей таму і ёсць музей, што яго трэба глядзець, а не расказваць аб ім. Дык мы і пайшлі знаёміцца з экспанатамі расненскага „Цэнтр-Хлеба“.

Дзіўнае слова **„экспанат“**. Я вось бачу плеценыя пасталы, сялянскую вопратку, жорны, драўляную барану з жалезнымі зубамі, за якой і я яшчэ хадзіў у юнацтве.

— Паглядзіце, — Віктар Дзямянавіч паказвае мне каляровы плакат, апрацаваны недзе ў 1920 годзе. — Так мастак уяўляў сабе цяперашнюю беларускую вёску, — паясняе ён. — Бачыце, яго творчая фантазія не змагла пераадолець характэрных для таго часу ўяўленняў аб шчаслівым жыцці. Усё тут паказана цудоўна і прыгожа, але саламяныя стрэхі ўсё ж ён пакінуў. Жыццё пераўзышло ўяўленні мастака...

Далей экспануецца гісторыя засваення чалавекам збожжа і бульбы.

— Вось гэтыя зёрны праляжалі ў зямлі 4,5 тысяч гадоў. Знайшлі іх геолагі на тэрыторыі адной крэпасці, — з захапленнем апавядае Віктар Дзямянавіч. І, сапраўды, ёсць тут чым захапляцца і над чым задумацца. Вось гісторыя *„барадзінскага хлеба“*. На ратным полі пад Барадзіно ў 1812 годзе загінула 4 генералы Тучковых, у тым ліку і Тучкоў Аляксандр Аляксеевіч. Яго жонка заснавала Барадзінскі манастыр, які пазней праславіўся асабліва добрым хлебам. Манастыр рэцэпт яго нарыхтоўкі трымаў у тайне аж да 1873 года, калі паявілася кніжка *„Куль хлеба“*, якая і дэманструецца ў Расненскім музеі.

Няма аніякай магчымасці, каб у кароткім рэпартажы апісаць усё тое багацце дакументаў і экспанатаў, якое захоўваецца ў „Цэнтры-Хлебе“ ды і паглядзець усяго таксама мне не давялося, не хапіла часу. Бегалі мы ад стэнда ў да стэндаў, быццам конь на шахматнай дошцы. Вось ужо год 1918 і першая картачка на хлеб. Партрэт Леніна з таго часу і арыгінальны дакумент, які літаральна перапісваю я ў свой журналісцкі блакнот:

*„Удостоверение.*

*Председатель Совнаркома, Владимир Ильич Ульянов — Ленин, занимается умственным трудом неограниченное число часов, в виду чего он имеет право пользоваться продовольственной хлебной карточкой первой категории.“*

Вось як пачыналася Савецкая ўлада! Стаю, думаю над пройдзеным шляхам і вачэй адарваць не магу ад гэтай ленінскай хлебнай картачкі... Цяпер мы адзначаем ужо **сямідзесятую** гадавіну Кастрычніка. Хлеба кожны з нас мае ўдосталь, можа якраз таму не заўсёды мы яго шануем і паважаем.

У наступнай зале — перыяд вайны і акупацыі. Тут даўжэй спыняюся над арыгінальным рэцэптам, апрацаваным 21 снежня 1941 года спецыялістамі **Імперскага міністэрства прадуктовых паставак Германіі.** Хлеб называецца „Das Ostbrot“, што ў літаральным перакладзе абазначае *„усходні хлеб“* або *„хлеб для ўсходу“*. Вось з чаго ён складаўся: **жамерыны (вытлокі) ад цукровых буракоў — 40 прац., вотрубі — 30 прац., драўляныя апілкі — 20 прац. цэлюлёзная мука з саломы — 10 прац.**

Гэтакім **„хлебам“** акупанты **перш за ўсё карміілі палонных у шматлікіх лагерах, пастаўлялі яго ў крамы гарадскому насельніцтву.**

**6 жніўня 1941 года паявілася першая лістоўка беларускага падполля, якая гаварыла пра хлеб. Яна заклікала беларусаў, апынуўшыхся пад акупацыяй, каб усялякімі спосабамі не давалі яны хлеба фашыстам.**

**Год 1942. Картачка на хлеб у галодным Ленінградзе. І аўтэнтычныя нататкі адной юнай ленінградкі:**

*„Мы хотим есть. Хлеба и снова хлеба,* — пісала яна сваёй маме. — *Ирина умирает медленной смертью. На нас жутко смотреть. Я до дурноты хочу есть. Другой мысли нет...“*

Вяртаемся на Беларусь. У Барысаўскім раёне пад Мінскам ёсць вёска **Іканы**, а ў гэтай вёсцы ўстаноўлены помнік „Партызану-сейбіту“. І, сапраўды, беларускія партызаны не толькі помсцілі ворагу, але і засявалі вызваленыя палі.

Настаў мірны час. Яго ад вайны яшчэ цяжка аддзяліць. Але тут абавязкова трэба назваць імя **Рамеслова Васілія Мікалаевіча.** У вайну ён быў капітанам. І ў нагруднай кішэні сваёй салдацкай гімнасцёркі, як святую каштоўнасць, ад Сталінграда да Берліна перанёс ён **54 зёрны** адборнай пшаніцы, на базе якіх пазней выгадаваў славутую **„Міронаўскую“ пшаніцу. Заняла яна вядучае месца ў пасевах па ўсяму Савецкаму Саюзу, прывілася ў многіх іншых краінах.**

Старшыня Уладзімір Лявонцьевіч нерваваўся, што пара нам у дарогу. Давялося тады шмат чаго пакінуць у гэтым музеі па-за нашай увагай. Віктар Дзямянавіч яшчэ толькі паказаў мне тры кусочкі хлеба: на адным з іх — сляды зубоў дзіцяці, памершага ў ваенным Ленінградзе, другі кусочак, — пабываў на хрыбце найвышэйшай гары свету, Монтэверэст, а трэці кусочак хлеба — вярнуўся з космасу, прывёз яго касманаўт **Клімук,** які нарадзіўся на Брэстчыне.

— З'ездзім у Белавежу! — распарадзіўся Ул. Л. Бядуля. Чаму — не? Ахвотна. То ж цікава паглядзець Белавежскую пушчу, недаступную на штодзень для нашых вачэй. Аб гэтым, аднак, наступным разам.

**Віктар Рудчык**

Фота аўтара




## ПЫТАННЯЎ МНОГА — АДКАЗАЎ МАЛА

Артыкул Уладзіміра Сідарука „Не развальвай таго, чаго не збудаваў“ я лічу не толькі чарговым заклікам да дыскусіі аб нашай нацыянальнай свядомасці, але таксама і да больш канкрэтнай дзейнасці.

Можна аднесці такое ўражанне, што пакуль не было Беларускага грамадска-культурнага таварыства і „Нівы“, не было на Беласточчыне і ўкраінцаў. Пасля звыш трыццацігадовай працы гэтых устаноў у іх радах вырас актывіст, які пачаў працаваць супраць сваіх папярэдніх арганізацый. Добра разгледзеўшыся, мы знойдзем і яшчэ некалькіх перабежчыкаў. У шасцідзесятых гадах мелі мы ўкраінцаў у Кляшчэлях. Традыцыйна ўжо частка нашай інтэлігенцыі была і надалей астаецца даволі пасіўнай, а калі нават актывізуецца ў нацыянальных справах, то спачатку на карысць вялікадзяржаўных народаў, а не суседняй нацыянальнай меншасці, становішча якой не так ужо і добрае, каб можна было разлічваць на хуткія і вялікія дасягненні. Відаць, працавалі мы ў напрамку павышэння нацыянальнай свядомасці мала эфектыўна.

Мне здаецца, што і дыскусія на старонках „Нівы“ моцна завужана. Абмяжоўваецца яна крытычнымі заўвагамі аб неўжыванні нашым насельніцтвам беларускай мовы ў публічных месцах, установах, гарадскіх асяроддзях. Ва ўмовах усходняй Беласточчыны рашуча ставіць гэта пытанне нельга таму, што не ўсё залежыць ад волі самога насельніцтва, а хутчэй ад адносін да беларускай мовы ўсяго асяроддзя. Яны з боку ўлад абыякія або адмоўныя, а з боку клерыкалаў — часта проста варожыя. Іншая прычына неўжывання роднай мовы ў спомненых асяроддзях — слабая яе знаёмасць. Насельніцтва вёсак паслугоўваецца ў штодзённым жыцці рознымі дыялектамі і на месцы зусім гэтага не сароміцца. Балюча рэагуе нават на ўводжанне іншамоўнасці. Але ў адносінах да чужынцаў паводзіць сябе стрымана, найчасцей карыстаючыся польскай мовай.

Дзякуючы навучанню беларускай мовы ў школах, дзейнасці БГКТ і „Нівы“ лік людзей, якія валодаюць беларускай літаратурнай мовай, узрастае, але магчымасці яе ўзбагачэння і, асабліва, выкарыстоўвання ў штодзённым жыцці вельмі абмежаваныя. У родных мясцінах нават „гарадскія госці“ паслугоўваюцца дыялектамі. Таму можна смела сказаць, што пакуль у нашых вёсках будуць сяляне, дыялекты з тысячагадовай гісторыяй не загінуць, а маладая беларуская літаратурная мова паступова будзе пашырацца. Мяне больш хвалюе катастрафальная міграцыя вясковага насельніцтва ў гарады. Пустыя вёскі могуць стацца нямымі сведкамі мінуўшчыны.

Я згодны з Уладзімірам Сідаруком, што І. Кірызюк — пера-

(Працяг на стар. 5)

## Свойскія малюнкі



*Палац Браніцкіх у Беластоку. Мал. Уладзіслава Петрукэ.*

Ёсіп Карпюк, 54 гады, народжаны ў Машчонай Панскай каля Сямяціч, жыве ў Сямяцічах, вядзе ўласны шклярскі варштат.

Цяпер сядзіць у рэдакцыйным пакоі, чытае „з галавы“ свае вершы на польскай, беларускай і рускай мовах. Два вершы пабеларуску прывёз, падае — яны напісаны лацінкай.

Свой першы верш напісаў у 1979 г. перад 22 ліпеня.

— Да таго часу, — кажа, — я ніколі не думаў, што буду пісаць вершы.

— А як сталася ў тым 79 годзе, што пачалі?

Паэт пачынае расказ у цяперашнім часе.

— Я адпачываю, ляжу, у тэлевізіі ідзе тэкст аб паэзіі. Мне як бы зацьменне раптам сталася, я ўбачыў компас і яго стрэлка адхілілася на 180 градусаў, я ўзяў паперу, аловак і пачаў пісаць...

Першы верш назваў нованароджаны паэт „Чарнэ кшыжэ“ Ад таго часу піша вершы, афарызмы. Нават прабуе п'есы.

— Калі прыходзіць натхненне, то каб я рабіў найпільнейшую работу, кідаю яе і пішу. Калі находзіць на мяне той час, то інакш не магу.

— Пра што быў той першы верш?

— Пра вайну. Як вайна прыйшла на нашу зямлю, як увайшла ў нашы хаты...

Карпюку многія яго вершы адразу і спяваюцца ў душы. Адразу і мелодыі складае, якія запісвае часам на касеты. Такі тыповы беларускі гусляр. Паслухайце адну зваротку аднаго верша-песні.

У нас на Палессі шырокі
прастор,
Свеціць тут месяц і мноства
зор.
Вецер ціхонька жыццём
шэвяліць,
Сонца на небе тым ярка
гарыць.

— Мяне цікавіць жыццё і яшчэ раз жыццё і спакойная зямля. Мяне цікавіць цёплае жыццё і халоднае жыццё. Такое ў мяне ёсць размежаванне жыцця, — канчае.

Піша п'есу, камедыю, тэма: сусед-суседка-каханне. Па-польску пачаў яе пісаць. Прыпамінае нам фрагмент. Гаворым, што ў гэтай п'есе абсалютна беларускі дух, дае яна беларускі абразок з жыцця, стыль мовы і ўсё іншае тут сваё.

— Дык чаму па-польску? Хуценька перакладзіце яе на беларускую мову, тэатральныя нашы калектывы зараз жа паставяць яе на сцэне. Тое ж самае з вашымі гумарэскамі — кароценькімі, вясёлымі сцэнкамі з жыцця.

„Па галаве“ ў яго ходзіць таксама сцэнарый школьнай п'есы, якую называе „Тарністар“, гэта пра хлопчыка, які радасна і ўрачыста 1 верасня ідзе першы раз у школу і раптам на яго падае варожая бомба...




*

Паэтамі, пісьменнікамі, драматургамі становяцца па-рознаму: адны ў 10, другія — у 20, 30, 40, 50 гадоў. Наогул пануе апінія, што калі паэт ці пісьменнік не стаўся ім у маладосці, то ўсялякае праяўленне такога таленту ў старэйшыя гады — гэта ўжо не арыгінальнасць, а другараднасць. За доўгія гады сваіх назіранняў за людзьмі, іх пошукамі і імкненнямі, я ўспрыняла такую вось тэорыю ў адносінах да сваіх беларускіх людзей. Беларусы — народ шчодра адароны, асабліва паэтычным талентам. Толькі што не было і няма ў нас моцнай літаратурнай традыцыі, шырокага доступу да літаратуры і да паэзіі беларускай, няма і шырокай магчымасці друкаваць розныя свае творы, няма шырока арганізаваных літаратурных бясед, конкурсаў, вечарын. У сувязі з такім становішчам і паэты родзяцца ў розным узросце — калі прыходзіць „зацьменне“. Талент прарываецца часта позна і то ў людзей без большай адукацыі. Памылка ў адносінах да творчага духа беларусаў такая, што быццам бы, каб быць паэтам, трэба абавязкова вучыцца, нават магістрам трэба стаць, бо не вучаны — не паэт. Трэба вучыцца, то факт, ніхто гэтага не апраўвяргае, але тым часам жыццё ў нас такое, што дзе ж там было да навукі старэйшаму пакаленню? На іх таленты ў маладосці ніхто не звяртаў увагі, ніхто не шукаў. Таму многа вялікіх народных талентаў прапала. І толькі некаторыя з іх адзываюцца ў старэйшым узросце. Ці рэдка здараецца слухаць старых людзей, як „адразу з галавы“ гавораць свае вершы, чытаюць апавяданні. І гэтыя вершы ў беларусаў аб высокіх ідэалах — бацькаўшчына, родная зямля, мір, дружба — у нас заўсёды дружба з Савецкім Саюзам. Сатырычна-гумарыстычныя вершы пішуцца, як правіла, на тэму гарэлкі, высмейваюць п'яніц.

Усе самародныя народныя паэты, каб у маладосці мелі іншыя ўмовы, кантакт з літаратурай, былі б прызнанымі паэтамі і пісьменнікамі.

Цяпер куды радзей у маладых, хоць і вучацца, праяўляюцца паэтычныя таленты. Гэта звязана бадай з агульнай безідэйнасцю, з антыгуманітарнымі імкненнямі ў жыцці сучаснага чалавека, з агульнай пагоняй за матэрыяльнымі, а не духоўнымі багаццямі.

Таму тым больш павінны мы шанаваць людзей, у якіх у старэйшым узросце наступіў выбух таленту. Такія людзі — носьбіты багатых рысаў нашага народа.

Такім і ёсць Ёсіп Карпюк.

**Вера Валкавыцкая**




## П'ЯНІЦА П'ЯНІЦУ ЛЮБІЦЬ

П'яніцы вельмі любяць плакаць, слёзы так і цякуць ім з запойных вачэй. Наймацней плачуць яны адзін па адным, гэта значыць, калі хто з іх возьме ды памрэ. Прычына тут простая: менш з кім піць. Ой, як п'яніца па п'яніцы бядуе!

Вядома, што п'яніцы рэдка паміраюць натуральнай смерцю — або каго з іх гарэлка спаліць, або сэрца не вытрымае, або рак нападзе на жывот ці кішкі... Таму, што не алкаголем чалавек павінен жыць, а хлебам і да хлеба.

У нашых Дубічах пару п'яніцаў адратавалі ад так ганебнай пагібелі ды ненадоўга. Адзін з іх даволі хутка сапраўды памёр і ніхто ўжо яго не даў рады выратаваць. А яго сябар ад роспачы хадзіў, як адурэлы, і ўсё паўтараў, што няма і яму ўжо жыцця на гэтым свеце. І неўзабаве ён таксама скончыўся. Гэта трагічнае, і аж невядома, ці спачуваць гэтаму, ці злавацца?

Я бачыў яшчэ і такую сцэну: хавалі страшнага п'яніцу, які настолькі абрыд нават родным сваім, што і не вельмі плакалі яны па ім. Затое плакаў наўзрыд і кідаўся ў роспачы зусім чужы нябожчыку чалавек, але сардэчны сябар ягоны „ад чаркі“. Можна падумаць, што п'янства спараджае між людзьмі нейкія сваяцкія сувязі, п'яніца п'яніцу мацней любіць і паважае, чым дзіця роднае сваё...

Сумнае ўсё гэта, нялюдскае.

**М. Панфілюк**

## БЕЛАРУСІКІ


Antonowicz Anton, Biełorusskije tieksty, pisannyje arabskim piśmom, ich grafikoortograficzeskaja sistema. Wilnius 1968. Rec. Obrębska-Jabłońska A(ntonina). *Slavia Orientalis* 1970, nr 1, s. 98—102.

Antonowicz Jerzy, Sesja naukowa pt. „Stosunki polsko-białorusko-litewsko-ukraińskie" w Warszawie w 1968 r. *Acta Baltico-Slavica* t. 7, 1970, s. 357—359.

Antonyczew Boris, Aleksandrow Iwan, Mniejsza załoga, wyższe zarobki, większa produkcja. (Połocki Kombinat Chemiczny). Tł. z ros. *Przegląd Związkowy* 1976, nr 7/8, s. 46—46, 54.

Araszonkawa Anna, Mackiewicz Józefa, Ab biełaruskich dyjalektnych rysach zachodniaha pahraniczcza. *Slavia Orientalis* 1963, nr 3, s. 275—280.

Araszonkowa Anna, Uwagi o refleksjach samogłoski (o) w południowo-zachodnich gwarach białoruskich, *Slavia Orientalis* t. 21, 1972, nr 1, s. 69—71.

Arechwa Nikołaj, Dieła i ludi KPZB. Mińsk 1983. Rec. Bergman Aleksandra, *Przegląd Historyczny* 1985, z. 4, s. 855—859.

Arendt Kazimierz, Kupała J. — Poeta bólu i nadziei. *Okolice* 1985, nr 1, s. 79—82.

Artymowicz Nadieżda, Słowa krzyżują się z karawanem słów dalekich i bliskich (w). Tł. z białor. Jan Leończuk. *Warmia i Mazury* 1978, nr 10, dod., s. 14.

Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny T. 1. Wrocław 1980. Rec. Traczuk Jerzy, *Kontrasty* 1985, nr 11, s. 43—44.

Bagrowska A., Wybór tekstów do zajęć praktycznych z języka białoruskiego, Warszawa 1975.

Bahdanowicz Maksim, Pogoń (w). — Dziadek (w). Tł. Tadeusz Chróścielewski. — Wodnik (w). — Okryta kwieciem białym kalina (w). Tł. Jan Huszcza. *Literatura na Świecie* 1971, nr 3, s. 36—38.

Bandarczyk Wasil, Historia bielaruskaj etnahrafii. Paczatak XX s. Mińsk 1970. Rec. Jakóbiec Marian, *Literatura Ludowa* 1972, nr 3, s. 59—60.

Bandarczyk Wasil: Etnografia Białorusi okresu powojennego. Tł. Łucja Andruszko, Czesław Andruszko. *Lud.* t. 57, 1973, s. 131—147. Sum.

Baradulin Ryhor, Są drzwi (w). Tł. z białor. Jan Huszcza. *Szpilki* 1969, nr 19, s. 10.

Baradulin Ryhor, Wspomnienia (w). Tł. Tadeusz Śliwiak. *Życie Literackie* 1969, nr 45, s. 9.

Baradulin Ryhor, Drzwi (w). Tł. z białor. Wiesław Rustecki, *Barwy* 1971, nr 1, s. 9.

Baradulin Ryhor, A nie ma narodów małych (w). — Uczący ojców naszych mowy... (w). Tł. z białor. Tadeusz Chróścielewski. *Nadodrze* 1983, nr 12, s. 9.

Baradulin Ryhor, Drzwi (w). — Warszawa (w). Tł. z białor. Wiesław Rustecki, Piotr Stefanowicz. — Ty (w). Tł. W. Rustecki. *Barwy* 1983, nr 8, s. 1, il.

Baradulin Ryhor, Nie ma małych narodów (w). — Na Białorusi (w). Tł. Tadeusz Chróścielewski. *Pisma Literacko-Artystyczne* 1985, nr 9, s. 65—66.

Barag Leu Rygoravicz, Belarussische Volksmarchen. Berlin 1967. Rec. Czurak Maria, *Slavia Orientalis* 1969, nr 3, s. 333—334.

Bandarczyk W.K., Bielaruskaja etnahrafia u pracach polskich dasledczykau XIX st. *Lud.* t. 51, 1966, cz. 1, s. 93—122.

Bandarczyk Wasil, Historyja bielaruskaj etnahrafii. Paczatak XX st. Mińsk 1970. Rec. Jakóbiec Marian, *Literatura Ludowa* 1972, nr 3, s. 59—60.

Barski Aleś, Białowieżanka (w). Tł. z białor. Wiktor Rudczyk. *Życie Literackie* 1968, nr 3, s. 6.

Barszcz Edward, Zjednoczenie Socjalistyczne Polskie na Białorusi i Ukrainie. *Zeszyty Naukowe, Wojskowa Akademia Polityczna* 1976, nr 89, s. 142—151.

Barszczewska Alina, Rola Towarzystwa Litewskiego i Ziem Ruskich w popularyzacji wiedzy o Litwie i Białorusi na emigracji (1931—1836). *Zeszyty Naukowe Uniwersytetu Łódzkiego* Seria 1 1968, z. 53, s. 45—69. Reś.

Barszczewski Aleksander, 10 lat „Białowieży" (Białoruskie Stowarzyszenie Literacko-Plastyczne). *Kontrasty* 1968, nr 4, s. 21—22.

Barszczewski Aleksander, Polskie zainteresowania językiem i kulturą białoruską w XIX i XX wieku. Ref. *Notatki Płockie* 1969, nr 2, s. 13—20, il.


**P.C.**

## ХРОНІКА

22 верасня г.г. пасяджэнне Прэзідыума праўлення Беластоцкага гарадскога аддзела БГКТ распачалося ўшанаваннем хвілінай цішыні шматгадовай дзяячкі БГКТ Анны Амбражэй, пахаванне якой адбылося 10 верасня на камунальных могілках.

Пасля гэтага старшыня аддзела Валянціна Ласкевіч праінфармавала прысутных, як вы конваўся план працы ў трэцім квартале бягучага года.

Сакратар ГП БГКТ Віталій Луба паведаміў аб прынятым на апошнім пасяджэнні Прэзідыума ГП БГКТ пастанове аб падрыхтоўцы на 25 кастрычніка пленума, які зацвердзіць матэрыялы на перадз'ездаўскую выбарчую кампанію. (З'езд БГКТ адбудзецца ў маі 1988 года).

Намеснік старшыні ГП БГКТ Кастусь Майсеня запэўніў членаў Прэзідыума праўлення аддзела, што рамонт вялікай залы ў памяшканні ГП закончыцца ў канцы лістапада, і гэта дазволіць аддзелу разгортваць шырэйшую дзейнасць. Ён праінфармаваў таксама аб працах пры будове Музея помнікаў матэрыяльнай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы. Адзначыў пры гэтым неабходнасць грамадскіх пачынаў БГКТоўцаў і далейшых фінансавых дараў людзей з нашай краіны і з-за мяжы.

Праект плана працы да канца бягучай кадэнцыі праўлення (да канца лютага 1988 года) прадставіла працаўніца аддзела Марыя Леанчук.

Наш дзеяч, дырыжор беларускіх харавых калектываў у Беластоку і Гарадку, Сцяпан Копа з'яўляецца цяпер штатным працаўніком Ваяводскага дома культуры ў Беластоку і робіць вялікія намаганні, каб у культурнай дзейнасці БГКТ былі выкарыстаны ўсе магчымасці, якіх ёсць нямала. Найважнейшым заданнем на сёння з'яўляецца стаўка на падрастаючую моладзь. Неабходна, каб пры ГП існаваў музычны курс з навучаннем беларускай музыкі, танцавальная група і, вядома, добры харавы і тэатральны калектывы. Патрэбна дапамога з БССР, а перш за ўсё з Гродзеншчыны ў рамках прыгранічнага супрацоўніцтва яе з Беластоцкім ваяводствам. Добра было б, каб адтуль у Беласток прыехаў дырыжор, харэограф, а мо і іншыя спецыялісты. Маглі б яны прыехаць хаця б на кароткі перыяд, найлепш падчас зімовых і летніх канікул, і дапамаглі б прафесіянальным інструктажом кіраўнікам нашых мастацкіх калектываў. Павінны прыязджаць сюды невялікія харавыя калектывы, як, напрыклад, „Лявоны".

Прэзідыум пашырыў праект плана працы да канца бягучай кадэнцыі. Адным з найбольшых мерапрыемстваў будзе святкаванне Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Урачыстую акадэмію аддзел падрыхтуе разам з ГП на 8 лістапада. Запланавана таксама ўрачыста адзначыць 150-ую гадавіну з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага, беларускага рэвалюцыянера, аднаго з кіраўнікоў студзеньскага паўстання 1863 года. (мх)

(Працяг са стар. 5)




мясцовае насельніцтва нават на самым поўдні Беластоцкага ваяводства і на левабярэжжы Буга спявае ўкраінскія песні і карыстаецца дыялектам, але не залічвае сябе да ўкраінцаў. Ці нельга выклікаць больш трывалага зацікаўлення гэтай праблематыкай сярод чарговых выпускнікоў маладых навуковых кадраў Кафедры? Пачатак доследаў ужо зроблены той жа Кафедрай і апублікаваны.

2. Вельмі мала мы зрабілі ў галіне азнаямлення насельніцтва з гістарычнымі падзеямі, якія звязвалі яго нацыянальную свядомасць з Літвою і Беларуссю. На старонках „Нівы" такіх матэрыялаў было мала. Гісторыя каралёў і князёў адарвана ад народа. Патрэбны аўтарытэтныя апрацоўкі гісторыкаў, якія запачаткаваў праф. Ежы Вісьнеўскі.

3. Мясцовыя дыялекты сталіся цэнтральным аб'ектам непаразуменняў. З гэтага вывад, што БГКТ і „Ніва" далей абыякава адносіцца да іх не павінны. Так было дагэтуль. На працягу трыццаці год апублікавана ўсяго некалькі вершаў сучаснай паэзіі, не заўсёды зразумелай шырокаму кругу чытачоў, і некалькі песень. Адлогам ляжаць мясцовыя легенды, казкі (некаторыя нават збеларушчаны), уся тапаніміка і, асабліва, мікратапаніміка. У нас ёсць ужо свае спецыялісты доследаў — не хапае толькі ініцыятараў.

4. У нашай дыскусіі аб нацыянальнай свядомасці больш сэнсоўна было б паслугоўвацца археалагічна-этнаграфічнымі крытэрыямі нацыянальнай прыналежнасці. На жаль, археалагічныя доследы на цікавячай нас тэрыторыі мізэрныя. Пашырэнне іх не прадбачваецца. Але пытаннямі этнаграфіі займаюцца многія дзеячы БГКТ, а пры нагодзе збору экспанатаў для музея зацікаўленне гэтай тэматыкай узрасце. Ці зможам аднак у бліжэйшыя гады правесці параўнаўчыя доследы старога вясковага будаўніцтва, прылад працы, вопраткі, звычаяў і выявіць, што ў нас сапраўды беларускае, а што імпартнае, — сумняваюся.

5. Вялікае значэнне павінны мець (але не маюць) сацыялагічныя доследы, запачаткаваныя Філіяй Варшаўскага універсітэта ў Беластоку. Наша насельніцтва, аднак, з увагі на знешнія шматлікія абумоўленні навучылася ў адказах на розныя, нават добра апрацаваныя апытальнікі даваць няправільныя адказы. Інакш кажучы — хамелеоніць, асабліва маладым даследчыкам. Аналіз сабраных матэрыялаў стварае фальшывы вобраз нацыянальнай свядомасці, матэрыяльных і духоўных патрэб насельніцтва, зменлівасці грамадскіх працэсаў у нашых асяроддзях і гэтак далей. Робіцца нядобра, калі слухаеш інфармацыі, што на Беласточчыне, на працягу аднаго апошняга саракагоддзя наступіла поўная асіміляцыя беларусаў, калі яны надалей тут жывуць і някепска сябе адчуваюць. Значыць, патрэбна наша дапамога тым да-

(Працяг на стар. 8)




Другая палова 1384 года ў Вялікім княстве Літоўскім — гэта час дзівоснай згоды Кейстутавічаў з Альгердавічамі. Ці таму, што Вітаўт са сваёй сям'ёй і братам Зыгмунтам, вярнуўшыся з Крыжацкага Ордэна на сваю бацькаўшчыну — у Гарадзенскае, Дарагічынскае і Берасцейскае княствы — ды атрымаўшы ў падарунку ад Ягайлы яшчэ Луцкае княства, апынуліся ў асаблівым становішчы? Магчыма. Па-першае, былі яны абязволены пачуццём нязмернай удзячнасці дваюрадным братам, асабліва Ягайлу, за іхняе высакароднае сэрца і шчодрыя падарункі. Па-другое, ужо тады ў паскораным тэмпе ішлі перамовы пра жаніцьбу Ягайлы з наследніцай польскай кароны Ядвігай і каранаванне яго на караля Польшчы. У сувязі з гэтым набліжаліся вялікія перамены як унутры дзяржавы, так і ў яе зносінах з суседзямі, і кожны са шматлікіх нашчадкаў Гедыміна рыхтаваўся да іх.

Вядома, Вітаўт перш за ўсё заняўся замацаваннем свае ўлады на Панямонні, Панароўі, Пабужжы ды ў Луцкім княстве. Быў ён добрым гаспадаром, і таму разам з яго вяртаннем на нашы землі вярнулася ажыўленне: на парослых крапівой




папялішчах застукацелі сякеры пры новых зрубах, на апусцелых гасцінцах заскрыпелі колы купецкіх вазоў, у рудніх задымілі печы ды задзвэнкалі молаты па цяжкіх крыцах толькі што выплаўленага жалеза. І ганцы, што зачасцілі з Кракава ці Буды ў далёкія Віцебск або Крэва, бо Ягайла пераважна там знаходзіўся, едучы праз Дарагічын, Бельск, Нарву, Крынкі ў кірунку Горадні, ці праз Белую, Бярэсце, Камянец на Слонім і Навагрудак, не блукалі тут па бязлюднай пушчы, як таго хацелі б некаторыя сённяшнія гісторыкі. Край наш быў, праўда, моцна знішчаны і вылюднены крыжацкімі „райзамі", але не пустынны. Галоўныя тракты, асабліва Навагрудскі гасцінец, былі належна дагледжаныя: праз глыбокія рэчкі былі перакінуты масты, а на плыткіх пакладзены брукаваныя каменнем брады, найбольш балоцістыя ды гразкі кавалкі дарог усцілала бярвенне. І заначаваць ці перачакаць непагадзь таксама было дзе: праз кожныя 20—30 вёрстаў (беларускія вёрсты ў Вялікім княстве былі: малая = 1560 метраў і вялікая = 1950 м) стаялі корчмы, якія тады называлі аўстэрыямі. У іх можна было не толькі перапачыць ды перакусіць людзям і коням, але таксама набыць харчоў і корму, наняць слуг, коней, наладзіць воз ці сані. Цікава, што ніхто з чужаземцаў, наведаўшых тады нашыя ваколіцы

## УСЁ ВЫРАШАЕ БОЛЬШАСЦЬ!

У сёлетнім чацвертым нумары вядомага часопіса „Więź“ апублікавана прасторнае інтэрв'ю Сакрата Яновіча, якое як бы дагаворвае недагаворанае ў яго кніжцы „Беларусь, Беларусь“. Гутарка канцэнтруецца на процібеларускіх аспектах каталіцтва даўней і цяпер. Перамаганне гэтай панурай традыцыі з'яўляецца ўмовай перспектыўнасці для экуменічнага руху, узаемнага набліжэння да сябе грамадстваў і культур, веравызнанняў. У Польшчы каталіцтва надалей мае рашаючы ўплыў на грамадскія настроі, атэізм тут з'яўляецца даволі маргінальнай з'явай, наадварот, як на Захадзе. Ідучы далей — спраўджаецца старая праўда, што пра лёс меншасці вырашае большасць, як доўга будзе каталіцтва неталерантным, фанатычным, так доўга не можа быць рэальным узаемнае сужыццё нацыянальных і рэлігійных меншасцяў Польшчы. Інтэграцыйныя працэсы нельга разумець як... ліквідацыйныя, бо інтэграцыя — гэта партнёрства, а не зніштажэнне!

## НАМАРНАВАЛІ І ПАЕХАЛІ!

Гаспадары ў Пасынках пастанавілі зрабіць толк з грамадскім пасбішчам. Як і трэба было, паведамілі пра тое ў Бельскую гміну. Даволі хутка прыехаў аж з Беластока якісьці „гміннік“ і сказаў, што для аднаўлення пасбішча будзе пасеяна трава. Так і сталася, траву пасеялі, завалачылі. І што выйшла? — парасла тут лебяда, асот ды ўсякі буран. Людзі як паглядзелі на ўсё гэта, то і адхацелася ім пасбішча, ніхто не арандуе яго. Калі даведалася пра гэта Бельская гміна, прыпёрся адтуль нейкі Чарвацкі і, агледзеўшы тую пасынкаўскую пашу, сказаў, што будуць прысланы ПГРскія машыны, якія выкасяць зелле і тады возьмецца расці добрая трава. Але так не сталася, лёгкі на язык начальнік больш не з'явіўся. Бушуе і зарастае пасынкаўскае пасбішча.

Трэба, каб Бельская гміна нарэшце навяла парадак з гэтым, бо выглядае, што актыўныя ў нас толькі марнатраўнікі!... Намарнавалі і паехалі.

**Андрэй Гаўрылюк**

(Працяг са стар. 3)

## НА МЯЖЫ

чысціні вёскі трэба шукаць прычын мае прывязанасці да яе. Уся істота ў самой магіі зямлі, у яе выключным водыры, якія ад вякоў кармілі сваімі сокамі сялянскія душы. І яшчэ адно. Быць можа, што адна з прычын маіх сувязей з зямлёй звязана з тым, што яна не дае мне ніякіх матэрыяльных карысцяў. Больш таго, з'яўляецца тым, да чаго я дакладваю. Калі б я той час, які ёй аддаю, прызначыў на іншыя заняткі, зарабіў бы я даволі значныя фінансавыя сродкі. І ўсё ж такі не лічу, што я на зямлі трачу. Маральная кампенсацыя велізарная, бо прыносіць мне значную духоўную карысць і асалоду. Праўда, нярэдка выступаюць такія моманты, калі ў час вялікай змучанасці хочацца ўсё кінуць, што звязана з вёскай і гаспадаркай, аднак пасля зноў вяртаецца апамятанне. Ці толькі я адзін такі дзівак на свеце? Не адзін.

Нядаўна даведаўся я, што выдатны акцёр і рэжысёр Рышард Філіпскі кінуў усё, што звязана з тэатрам, фільмам, акцёрствам, прапаў з Варшавы. Доўгі час ніхто не ведаў, дзе падзеўся чалавек. Урэшце хтосьці ўбачыў Філіпскага ў нейкай глухой вёсцы, як той араў плугам зямлю. Адны скажуць, у такой сітуацыі: вар'ят, другія: дзівак, трэція: арыгінал, які шукае таннай славы. Многія, пабачыўшы мяне, калі абворваю бульбу або вязу гной, стукаюцца пальцам па ілбе і выказваюць розныя непрыхільныя заўвагі. Няхай там сабе стукаюць пальцамі і гавораць розныя словы — гэта іх справа, а не мая. Мая заключаецца ў тым, каб так доўга, як толькі ўдасца, араць зямлю, сеяць збожжа, касіць і малаціць. А закончыўшы работу, паваліцца ў пахучае сена і памаліцца зямлі, нашай маці, нашай карміцельцы, нашай заступніцы. Зразумеўшы гэтую простую праўду, знайшоў я спакой і трывогу, без якіх жыццё не было б жыццём.

Добра напісаць верш, добра выдаць кнігу. Аднак найважнейшым творчым актам ёсць ворыва, у якое кідаеш зерне і чакаеш усходаў. А колас, які вырасце з тваёй раллі — гэта найпрыгажэйшая паэма. А ці ж якая-небудзь кніга можа зраўняцца з распасцертым спелым палеткам пшаніцы? Благаслаўлены толькі той чалавек, які ведае цяжар і анельскую лёгкасць зямлі.

**Алесь Барскі**

## МУЗЕЙ БЕЛАСТОЦКАЙ ВЁСКІ



Перавезеная з Пабужжа і складзеная ў 1985 г. клуня.
Фота М. Гайдука.

## НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

Odpowiadając na notatkę „Hajnówka hańbicca” (nr z dn. 9.08.1987 r.) oraz wystąpienie Redakcji z dnia 12.08.1987 r. uprzejmie wyjaśniam: w naszym mieście znajduje się 20,5 ha zieleni, wymagającej stałych zabiegów pielęgnacyjnych: są to skwery, trawniki, zieleńce, rabaty itp. W tym 9 ha to park XXX-lecia — co roku uzupełniany nowymi nasadzeniami krzewów i drzew, ale założony na wieloletnim drzewostanie leśnym (skupiska brzóz, w wieku 50—60 lat) i dlatego też w wyniku burz, jak również dużych zmian klimatycznych mają miejsce wiatrołomy i uszkodzenia drzew.

Pielęgnację całej powierzchni zieleni prowadzi Miejski Zakład Zieleni, w którym zatrudnionych jest 11 osób z tego 1 na tzw. funduszu interwencyjnym. Przy braku sprzętu mechanicznego i specjalistycznych maszyn jest to obsada niewystarczająca, ale aktualnie Przedsiębiorstwo Gospodarki Komunalnej i Mieszkaniowej nie posiada innych możliwości. Dlatego też, do utrzymania czystości i porządku angażowane jest całe społeczeństwo — mieszkańcy pielęgnują zieleń na własnych osiedlach, zakłady pracy przy własnej posesji, a młodzież szkolna parki i skwery. Prace są prowadzone systematycznie i mogą wystąpić tylko sporadyczne zaniedbania.

Powyższe okoliczności nie usprawiedliwiają jednak dramatycznego wrażenia jakie odniosła autorka notatki, dlatego też przyjmuje je z ogromnym wstydem, traktując jako rażące zaniedbania służb komunalnych.

Wystąpienie przekazano dyrektorowi PGKiM w Hajnówce, celem wykorzystania przy ocenie pracowników Zakładu Zieleni Miejskiej (naliczanie premii itp.).

Pragnę jednocześnie stwierdzić, że nie można zgodzić się na zbyt daleko idące uogólnienia opisywanego zjawiska — upadek kultury mieszkańców — gdyż nasza społeczność wykazuje wiele odpowiedzialności za swoje środowisko i otoczenie. Miasto uczestniczy w ogólnopolskim konkursie „Mistrz Gospodarności”, gdzie najwyżej ocenia się inicjatywę i pracę mieszkańców dla siebie samych.

Treść notatki i wystąpienie Redakcji zostaną również omówione na zebraniu komitetów osiedlowych, komisjach MRN („Niwa” dociera do wielu rodzin, bo tygodniowo sprzedaje się w Hajnówce ok. 700 egzemplarzy) celem wyzwolenia większej odpowiedzialności obywateli za zachowanie czystości w miejscach publicznych.

Z-ca Naczelnika Miasta
mgr Jadwiga Rudzińska-Patejuk

і наогул Вялікае княства, не наракае ва ўспамінах ці запісах на благія дарогі, недахоп прытулку ці разбой.

Рушыла, мабыць, таксама засяленне спустошаных крыжацкімі нашэсцямі і вайной з князем мазавецкім Янушам гарадоў і сёлаў Пабужжа і Панароўя. Вітаўтавы цівуны перасялялі ўжо насельнікаў Слонімшчыны ці Наваградчыны, якія тады не падлягалі іхняй уладзе. Вітаўту цяпер адкрыліся амаль неабмежаваныя магчымасці перасяляць жыхароў Луцкага княства. Не выпадкова, відаць, пачынаючы з 1384 і аж да 1390 года Вітаўт з сям'ёй у асноўным жыў у Луцку. Пад яго наглядам накіроўвалі ў Пабужжа ці Панароўе, а нават у Панямонне жыхароў сёлаў і мястэчак, што густа абселі берагі Стыра, Гарыні, Случы і іхніх прытокаў. Перасяленцы асядалі пераважна на пустках пасля ранейшага насельніцтва. Сляды гэтага перасялення не цяжка заўважыць яшчэ і сёння ў беларускіх гаворках Сямяціччыны, Бельшчыны ці Гайнаўшчыны, асабліва ў ваколіцах Чаромхі.

Заняткі па гаспадарчаму аднаўленню бацькаўшчыны зусім не перашкаджалі Вітаўту актыўна ўдзельнічаць у дзяржаўным жыцці ўсяго Вялікага княства. Праўда, Скіргайла-Іван, які да ўцёкаў Вітаўта з сям'ёю і братам з Ордэна валодаў усім былым Кейстутавым удзелам, даволі крыва паглядаў на двая радната брата, якому дасталася больш паловы яго зямель. Седзячы ў заможным і зацішным Луцку, Вітаўт жа не пакідаў надзеі, што верне пад сваю ўладу ўвесь бацькаў удзел і спіхне Скіргайлу з троцкага княжацкага пасада. Прытым не толькі марыў, але і рабіў патаемныя намаганні. Аднак спачатку гэта не перашкаджала Вітаўту са Скіргайлам поплеч весці свае войскі супраць крыжакоў у пачатку лістапада 1384 года. Пад Вітаўтавымі сцягамі ішлі воі з Гарадзеншчыны, Дарагічыншчыны, Берасцейшчыны разам з воямі з далёкага Луцкага княства. Паход аказаўся ўдалым — магутная крыжацкая крэпасць Марыенвердэр, якая была вялікай пагрозай не толькі Жмудзі, але і Трокам ды Вільні, была здабыта і разбурана.

Ва ўзаемную карысць пачалі складвацца адносіны Вялікага княства з Мазоўшам, асабліва з князем плоцкім Семавітам. Гэты няўдачлівы прэтэндэнт на караля Польшчы, пераканаўшыся, што ў яго няма ніякіх шанцаў ажаніцца з польскай каралеўнай Ядвігай і сесці на кракаўскім троне, падаўся на Каляды 1384 года ў далёкі Віцебск і папрасіў у вялікай княгіні Ульяны і вялікага князя Ягайлы рукі роднай Ягайлавай сястры, князёўны Аляксандры. Мабыць, не толькі сама далёка ўжо не першай маладосці князёўна, але і яе старэнькая маці ды браты і сёстры з радасцю прынялі гэтую прапанову, бо Семавіт славіўся сваёй кавалерскай статнасцю і добрымі манерамі. Аднак тады ўжо 28-гадовы плоцкі князь, які меў за сабою не адно ў жыцці, менш цікавіўся асабістымі якасцямі будучай жонкі, хоць і заган у яе ніякіх не было, затое моцна клапаціўся пра пасаг. І Альгердавічы не паскупіліся: абдаравалі сястру шчодра, не па-княжаму, а па-каралеўску. За Аляксандрай атрымаў Семавіт самую людную і самую заможную заходнюю частку былых уладанняў нябожчыка Любарта-Дзмітрыя — вялікі абшар верхняга Пабужжа з Гародлам, Белзам, Любачовам, Бускам і іншымі гарадамі. Семавітава бацькаўшчына была на многа меншай і бяднейшай Аляксандрынага пасагу.

Але не толькі халодны разлік дыктаваў тадышнія княжацкія ды каралеўскія жаніцьбы і замужжы. Здараліся сярод іх і рамантычныя, са шчырага кахання. Адна з іх вартая была балады знакамітага барда, а не толькі нашай нататкі. Згадаем жа пра яе, хоць кораценька.

Пасля пагрому Залатой ардой у 1382 г. Маскоўскага княства

(Працяг на стар. 11)

# Зорка

## Старонка для дзяцей

*Нашым Дарагім Настаўнікам у Дзень іх Свята — ад сэрца пажаданні здароўя і сіл у працы з намі —*

*чытачы „Зоркі“*



### З КАНІКУЛАЎ

У самым канцы канікулаў у вясковым доме культуры ў Рыбалах адбылася цікавая і багатая дзіцячая імпрэза, якая закончыла канікулы дзяцей з Рыбалаў, Дабрынёўкі і Заблудава, Рафалоўкі. Удзельнічала ў ёй 60 дзяцей.

Ад 9 гадзіны раніцы і да палова дзесятай вечара былі арганізаваныя гульні. Пад наглядам Станіславы Палікарп з Заблудава дзеці малявалі розныя карціны. Янка Мордань пастараўся заахвоціць дзяцей назваць намаляваныя сябрамі карцінкі. Лідзія Мартынюк павяла гульню з загадкамі і спаборніцтва на спрытнасць (з завязанымі вачыма трэба было перакладваць са стала на стол запалкі з другой асобай).

Пасля эмоцый у гульнях, Ніна Нікалаюк з „Практычнай пані“ частавала дзяцей смачным абедам, а на канец усе пайшлі ў лес і там распалілі вогнішча, пяклі каўбаску. Пачаў марасіць дождж, але дзеці паспелі каўбаску з'есці і патанцаваць на мураве. (вв)



Дзеці з Рыбалаў: (злева): Марта Нікалаюк, Эля Мартынюк, Мар'еля Нікалаюк.
Фота В. Рудчыка

### БАЯЗЛІВЫ ГРЫБ

Зноў у лес завітала восень Жоўтае і барвовае лісце падала на зямлю. Першымі асядалі самыя смелыя і цікаўныя.

Раптам лісточкі адчулі, што нехта штурхае іх знізу: „Ах, прабачце, калі ласка, што мне давялося патрывожыць вас, але іншага выйсця няма“...

Здзіўленыя лісточкі пасунуліся ўбок. З зямлі паказалася маленькая жоўтая шапачка:

— Добры дзень, гэта я, падасінавік. Як добра, што я вылез з гэтага падзямелля. — Ён хацеў яшчэ нешта сказаць, ды нечакана адчуў, быццам хтосьці пхае яго ў бок. Грыбок паглядзеў уніз і ўбачыў — яшчэ маленькі грыбок цягнецца з зямлі.

— Чаго ты пхаешся? — абурыўся грыбок. — Хіба не мог выйсці ў іншым месцы? Тут і так цесна.

— Ведаеш, як цяжка, — адказаў малодшы. — Я стараўся. стараўся, адно ледзь шапачку не згубіў.

— Што ж, — сказаў старэйшы, — не хныкай. Як-небудзь змесцімся.

Мінуў дзень, другі... Лісточкаў нападала яшчэ больш. Дні былі ветраныя, і лісточкі адрываліся ад галінак, кружыліся на ветры. А калі ім надакучвала кружыцца, яны ціха апускаліся на зямлю. Грыбы падраслі, узвышаліся над лісточкамі. Не, узвышаўся старэйшы, а малодшы ўсё хаваўся пад яго шапачку, пад лістоту і баяўся нават носа высунуць і паглядзець на свет.

— Навошта ты схаваўся? — угаворваў яго старэйшы. — Цябе ж ніхто не ўбачыць і ніколі не падбярэ. Для чаго ты тады расцеш, калі не хочаш нікому прынесці радасць.

— Я расту сам для сябе, для сваёй карысці. Бывай! — сказаў малодшы і яшчэ глыбей закапаўся ў лісце.

Раніцай трэцяга дня ў лес прыйшлі дзеці. Адна дзяўчынка ўбачыла вялікі падасінавік з ярка-чырвонай шапачкай.

— Які прыгожы! — сказала дзяўчынка. Падбегла, зрэзала грыб і паклала ў кошык.

Мінуў яшчэ дзень. Падасінавіку стала сумна. Цяпер ён ужо не супраць быў, каб яго хто-небудзь падабраў і паклаў у кошык.

І вось аднойчы ў лес зноў прыйшлі дзеці. Падасінавік вельмі ўзрадаваўся, падцягнуўся, на колькі хапала яго сіл.

„Цяпер мяне абавязкова заўважаць і пакладуць у кошык. — Падумаў грыб. — Нічога, што я стары, затое самы вялікі — ледзь не ўвесь кошык займу“.

У гэты момант да яго наблізіўся хлопчык.

— Во гэта грыб! — усклікнуў ён, нахіліўся, зрэзаў і тут жа адкінуў убок: — Ён увесь чарвівы!

Грыб ляжаў на мяккіх асенніх лісточках, якія са спачуваннем перашэптваліся: „Ах, бедненькі! Не пашанцавала яму. Так стараўся, вялікі вырас...“

Тут і старая асіна, на якой амаль зусім не засталося лісця, не вытрымала, загайдала галінкамі і зашаптала: „Усяму — свой час, усяму — свой час“.

**Людміла Сабіна**

### Дары залатой восені

### КАРАГОД У АГАРОДЗЕ

Ранкам прамяністым
Певень галасісты
Пад бярозкай тонкай
Кукарэкаў звонка.
Ухапіў цымбалы
Павучок удалы,
А чмялі-чмялёчкі —
Скрыпкі ды смычочкі.
Як зайгралі слаўна,
Выйшла ў танец плаўна,
Узмахнуўшы хусткай,
Кумачка Капуста.
Цераз усю градку
Хораша ўпрысядку
Пайшлі Агурочкі
У вышытых сарочках.
Страсянуў Сланечнік
Залацістым чубам,
Цераз агурэчнік
Скача — глянуць люба.



І Цыбулька з Бручкай
Гарбуза пад ручкі
З двух бакоў хапілі,
Весела скакалі,
— Гоп-гоп!
— Топ-топ! —
Разышоўся Боб,
А за ім затопаў
І Гарошак з Кропам.
Морква ды Пятрушка
Сыпалі частушкі.
— Я і гэтак,
Я і так, —
Заспяваў
Чырвоны Мак.
Памідорак сорак
Са сваіх падпорак
Дружна шчыравалі,
Хорам падпявалі.
Не ўцярпела Пудзіла,
Трошкі памарудзіла,
А затым,
Нібы крылом,
Узмахнула памялом...
Карагод, карагод
На ўвесь агарод...

**Пятро Сушко**

### БЕЛАРУСКІЯ МУЗЫЧНЫЯ ІНСТРУМЕНТЫ




З выгляду — скураны мех (рэзервуар для паветра), у які ўстаўлены жалейка і труба, што пры ігранні давала басовы гук. Інструмент наогул знік у канцы XIX стагоддзя. Зараз ігру на дудзе можна пачуць у сучасных фальклорных ансамблях.

## Вучнёўская творчасць

Пасярэдзіне вялікага беларускага сяла Дубіны, што неападаль Гайнаўкі, стаіць вясковая святліца. З выстаўкі ў ёй я пазычыла некалькі малюнкаў, якія рэпрадукуем ніжэй. Малюнкі — гэта плён працы пластычнага гуртка дзяцей з Дубіноў, які ўжо 3 гады вядзе ў святліцы яе кіраўнічка Раіса Кот. У пластычным гуртку пры Дубінскай святліцы 20 дзяцей з вёскі ва ўзросце ад „зэруўкі" да III класа.

Раіса Кот раз у тыдзень — у чацвер, ад гадзіны 16 да 18 вядзе з дзецьмі заняткі па пластыцы. Матэрыялы, патрэбныя для працы, купляе за грошы, выгаспадараваныя з бюджэту святліцы.

А вось і творчасць дубінскага гуртка малых мастакоў.




МОЙ ГАРОДЧЫК. Мал. Ані Бандарук, II клас, з Ляўкова. Была на канікулах у цёці Раі ў Дубінах і прыняла ўдзел у конкурсе пластычным, які тая ж цёця Раіса Кот арганізавала ў святліцы ў Дубінах.



Я НА КАНІКУЛАХ. Мал. Ані Вярбіцкай, I клас, з Дубіноў.



У ПУШЧЫ. Мал. Ані Яковюк, VI клас, з Дубіноў.

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А

### ЦІКАВАЯ АРЫФМЕТЫКА

Сума двух лікаў роўная 330. Калі ў большым ліку адкінуць справа нуль, то лікі стануць роўнымі.

Якія гэта лікі? Прышлі адказ.

## Слаўныя людзі Беларусі

**ВЕДАЙ ТОЕ, ШТО БЫЛО, І ВУЧЫСЯ ЖЫЦЬ.**

**Пачынаем для вас, чытачы „Зоркі", друкаваць кароткія гістарычныя апавяданні з мінулага Беларусі — ад часоў найдаўнейшых да нашых дзён. Хочам паказаць нашу гісторыю праз асобы яе самых выдатных і заслужаных людзей. Чытайце і пазнавайце сваіх продкаў! І вучыцеся! „Зорка" будзе з вамі ў гэтым падарожжы праз стагоддзі.**

# РАГВАЛОД

Там, дзе рэчка Палата ўпадае ў раку Дзвіну (нашыя продкі называлі яе ракой Доўгай), на стромкім беразе, узвышаецца самы старажытны беларускі горад Полацк. Весткі даўнія падаюць, што заснаваў яго мужны і дужы ваяўнік Палтэс. Ён узяў пад сваю ўладу навакольныя землі і гэтак паўстала Полацкае княства.



Драўляная сцяна — умацаванне горада.

Больш за тысячу год таму назад (прыблізна ў гадах 950—980) у Полацкім княстве панаваў князь **Рагвалод**. Рагвалод — значыць: валадар ускраю або рога зямлі.

За Рагвалода Полацкае княства прасціралася на вялікім абшары, па якім плывуць мнагаводныя рэкі Дзвіна, Бярэзіна, іхнія шматлікія прытокі і бяруць свой пачатак Вілія і Нёман. На паўночным захадзе Усходняй Славяншчыны Полацкае княства было самым крайнім. Па Дзвіне яно глыбока ўрэзвалася паміж неславянскімі плямёнамі (лівы, эсты) і сягала Балтыйскага мора. Жылі ў ім крывічы — адно з плямёнаў, з якіх паўстаў беларускі народ.

Па ўсім Полацкім княстве на берагах вялікіх рэк, незлічоных малых рэчак і ручаёў, пры азёрах расселіся ўмацаваныя гарады, людныя сёлы, вёскі, самотныя сялібы. Іх насельнікі абраблялі зямлю, гадавалі жывёлу, займаліся рамяством, рыбнай лоўляй, паляўніцтвам, бортніцтвам. На пагорках, у недаступных мясцах, віднелі высокія вежы і моцныя сцены крэпасцей. Калі на княства нападалі ворагі, у гэтыя ўмацаванні хаваліся з дабыткам жанчыны з дзяцьмі і старэйшыя людзі. Мужчыны і юнакі на чале з князем ставалі да бою і выбівалі захопнікаў з роднага краю. Змагаліся датуль, пакуль не прагналі ўсіх непрыяцеляў.

Затое ў Полацкім княстве гасцінна віталі купцоў, што з блізкіх і далёкіх (Сярэдняя Азія, Бухара, Кітай, Нямеччына, Польшча) краін прывозілі прыгожыя і патрэбныя тавары і абменьвалі іх на розныя вырабы палачан. Не толькі чужаземцы гандлявалі з Полацкім княствам. Полацкія купцы таксама вывозілі ў розныя краіны каштоўныя вырабы сваіх рамеснікаў, збожжа, футры, мёд і іншыя тавары і прывозілі за іх соль, розныя металы (срэбра, золата, медзь, волава), дарагія тканіны (парча, шоўк), упрыгожанні, шкло і іншае.

Пазайздросціў спакойнаму і заможнаму жыццю палачан і рашыў іх скарыць князь Уладзімір, які панаваў у суседнім Ноўгарадзе Вялікім. Склікаў ён наўгародскіх вояў, наняў замежных ваяўнікоў — нарманаў са Скандынавіі, і ў 980 годзе знячэўку напаў на Полацкае княства.

Заўзята адбівалі палачане націск ворагаў. Дзе было найцяжэй і найбольш небяспечна, туды рваўся сам князь Рагвалод са сваімі двума сынамі. Аднак ворагаў было больш і яны пачалі перамагаць. Тады палачане з князем зачыніліся ў Полацку і з яго сцен адбіваліся ад варожага наступу.

Барацьба была жорсткая, сілы абаронцаў вычарпаліся і захопнікі ўварваліся ў горад, абрабавалі яго і спалілі. Многа палачан трапіла ў няволю, яшчэ болей іх загінула ў барацьбе. Палеглі ў абароне Полацка таксама князь Рагвалод, яго жонка-княгіня і абодва сыны-княжычы. Адзіную іхнюю дачку, прыгажуню княжну Рагнеду пераможца, князь Уладзімір, узяў у палон і прымусіў стаць яго жонкай.

Праз якіхсьці 10—15 год палачане адрадзіліся, узмужнелі і вызвалілі сваё княства ад залежнасці ад Ноўгарада.

Стаў у іх княжыць тады спачатку ўнук мужнага Рагвалода — князь Ізяслаў, потым яго сын — Брачыслаў, затым іхнія нашчадкі. Яны ўсе назваліся па сваім продку **Рагвалодавічамі**.

**Мікола Гайдук**



Навушніцы крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў. Якія вам найпрыгажэйшыя?

# ВЫП ,ДАК У АТЭЛЬЕ

Аднойчы ў нашым атэлье
Крычаў Янук, з будоўлі хлопец:
— Нясіце кнігу скаргаў мне,
Паздзекаваліся вы і хопіць!

Які пашылі мне касцюм?
Дзе рукавы і дзе кішэні?!
Узняў такі ён вэрхал, шум,
Як быццам выгнаны ў каршэнь.

Яму ў адказ: — Грамадзянін,
Не дужа бліскайце вачамі!
Прышыты вось рукаў адзін,
Другі прышыеце і самі.

Вы будаўнік, Янук Партач,
Пра гэта нам даўно вядома,
Было і нам, ну хоць ты плач,
Пры засяленні ў вашым доме.

Цякло, уздыбіўся паркет,
І не ў адной якой кватэры,
І фортачкі разбіты ўшчэнт,
Не зачыняліся і дзверы.

Той навасельнаю парой
Шмат дараблялі мы, што трэба.
Іголкай папрацуй сваёй,
Як мы папрацавалі гэблем.

Гаворыць, быццам бы абмяк
Той будаўнік, спыніў атаку:
— Дашыйце мне ўжо пінжак,
І я рабіць не буду бракаў!

**Генадзь Зотаў**

**Закон захавання матэрыі не выратоўвае ад молі.**



# НІЎКА



### РЭЦЭПТ

— На што скардзіцеся?

— Во тут трашчыць, там патрэсквае, а вось тутачкі аж растрэскваецца.

— Дык вам да бондара трэба. Наб'е абруч — як новенькая будзеце.

### СПАДЧЫННАСЦЬ

Сын: — Мама, настаўніца кажа, што я ўвесь у бацьку.

Маці: — Так, але бацьку не кажы. Ён яшчэ спадзяецца, што з цябе выйдзе нешта талковае.

### ДОБРА І ДРЭННА

У Задрыпанцы сустракаюцца дзве жанчыны:

— Як у вас сёлета пашанцавала з пчоламі?

— І добра і дрэнна.

— Як гэта?

— Дрэнна, бо не далі зусім мёду; добра, бо пакусалі гэту ведзьму Задрыпкоўскую.

### СПАГАДЛІВЫ

Прыходзіць сусед да суседа, а той, запрашаючы яго, паставіў перад ім міску мёду.

Госць узяў лыжку ды й пачаў есці.

Гаспадар глядзеў-глядзеў ды і кажа:

— Еште з хлебам, бо будзе сэрца балець.

А госць пытае:

— У каго — у вас?

### У СУДЗЕ

— Значыць, самаход ударыў вас, калі вы пераходзілі праз вуліцу, — звяртаецца суддзя да пацярпеўшай. — У якое месца вас ударыў?

— Як тут вам, высокі суд, сказаць... — Калі б я была самаходам, дык у гэтым месцы была б рэгістрацыйная табліца.



**Свой камень насіў не за пазухай, а ў ныры.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Дзяўчына з Нью-Йорка, якая праводзіла канікулы ў вёсцы, паскардзілася фермеру на быка, які вельмі люта разглядаў яе!

— Відаць, гэта з-за вашай чырвонай блузкі, — сказаў фермер.

— Божа мой! — усклікнула дзяўчына. — Я, вядома, ведаю, што яна страшна старамодная, але мне і ў галаву не прыйшло, што гэта можа прыкмеціць вясковы бык.

— ✻ —

— Як, мадам, вашай дачцы ўжо дваццаць год?! Рана, відаць, вы выйшлі замуж...

— Так, у восем гадзін раніцы.

— ✻ —

Муж і жонка выходзяць з царквы.

— Я прыкмеціла, што ты кінуў на паднос пяць тысяч лір.

— Ну і што?

— Хацела б я ведаць, які грэх ты ўчыніў, каб так многа даваць.



— Зрабіце мне прыемнасць і прыміце букет... Вы — мая тысячная ахвяра.

### З „Весніка Задрыпоніі"

### НОВАЕ Ў АБСЛУГОЎВАННІ

У Ачуцінаве адкрылі новае відэакафэ. Цяпер кожны наведвальнік можа заказаць любое блюда, і яго тут жа пакажуць па відэамагнітафону.

### ПЫТАННІ БЕЗ АДКАЗАЎ

Калі б не было таблічак на дзвярах, як бы мы адрознівалі дробных служачых ад вялікага начальства?

З суседскага агародчыка.




Баечкі

### СЛАНЕЧНІК

Хваліўся ён градзе бясконца:
— Хіба раўню дзе знойдзеш мне?!
Я жоўты,
Я святлей за сонца...
Праз пару дзён ён учарнеў.

### ПАТЭЛЬНЯ

— Спяваць
мне дадзен божы дар, —
Хвалілася патэльня
І пела.
Як разабраліся —
Шыпела.

**Казімір Камейша**

Эпітафія

### П'ЯНІЦУ, ЯКІ, ЗАКУРЫЎШЫ Ў ЛОЖКУ, СПАЛІЎ СЯБЕ, СВАЮ СЯМ'Ю І ГАСПАДАРКУ

Ты на той свет, гарэлкі раб,
забраў сям'ю і гаспадарку:
хутчэй за ўсё прыкінуў, каб
і ў пекле з гора мець на чарку.

**Васіль Жуковіч**



# Курёзы

### ТУФЛІ ТРОХПАВЕРХАВАГА ПАМЕРУ

Рэклама павінна абавязкова прыцягнуць да сябе ўвагу. Сярод мноства рознакаляровых плакатаў, пано і неонаў вялікіх гарадоў сачыць за гэтым усім больш складана. І вось стала модай змяшчаць на высотных дамах гіганцкія макеты рэкламаваных тавараў. У Токіо на адным з будынкаў павіс дваццаціметровы гадзіннік, а небаскроб у Нью-Йорку „апранулі" ў гіганцкі купальнік. У Бастоне ж на сцяне атэля размясцілі туфлі памерам... у тры паверхі.



**Стоячы за прылаўкам, лёгка крочыць у нагу з модай.**




**Смеласць гарады бярэ. Вось таму ў вёсцы застаюцца толькі нясмелыя.**